наша
# свабода

№23(110) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

26 ЛЮТАГА 2001 года
ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ




## «На Беларусі пануе мадыфікаваны камунізм»

Наталля МАКОВІК

«Беларусь — невядомая краіна» — пад такой назвай двое славацкіх журналістаў па візіце ў нашу краіну апублікавалі артыкул у штотыднёвіку «Даміноформ».

Аўтары адзначаюць, што Беларусь мае адну з самых жорсткіх сістэм нагляду і падліку колькасці замежнікаў на сваёй тэрыторыі. «На працягу трох дзён мы былі абавязаны зарэгістравацца ў міліцэйскім аддзяленні, запоўніць шмат фармуляраў і паставіць штамп у пашпарт з датай рэгістрацыі. Уся гэтая працэдура наўмысна падоўжваецца мясцовымі бюракратамі», — гаворыцца ў артыкуле. У дадатак з замежных грамадзян за гэтую працэдуру яшчэ бяруць грошы. Журналісты тлумачаць гэта беднасцю беларускай дзяржавы: «На вуліцах трапляе на вочы галеча, шырокія праспекты напалову запоўненыя старымі аўтамабілямі нямецкай вытворчасці, кожны дзень растуць кошты на самыя неабходныя тавары...».

Славацкіх журналістаў здзівіў факт, што многія вуліцы беларускіх гарадоў названы ў гонар «заснавальніка ЧК: «На некаторых дамах нават павешаны памятныя дошкі. На Беларусі і далей пануе дух таталітарызму і мадыфікаванага камунізму без выначанай ідэалогіі і з цэнтралізаванай эканомікай». ■


Фота Ул. ШЛАПАКА

● Беларуская партыя свабоды адзначыла ўгодкі Беларускай краёвай абароны хрышчэннем некалькіх сяброў арганізацыі ў грэка-каталіцкую царкву. Хрост адбыўся ў Мінскім касцёле святых Сымона і Алены. Прысутныя трымалі нацыянальныя і партыйныя сцягі і плакаты ў падтрымку уніяцтва як адзінай сапраўднай беларускай рэлігіі.

## НАВІНЫ

■ **З 1 сакавіка з латкоў у раёне мінскага Камароўскага рынку будзе спынены продаж булачных і кандытарскіх вырабаў.** Гэткі захад зроблены пасля адмысловай праверкі, якая выявіла шматлікія парушэнні правілаў гандлю гэтай прадукцыяй.

■ **З пачатку года ў Беларусі праваліліся пад лёд і патанула 10 дзяцей (летась за ўсю зіму толькі 7).** Усяго гэтак загінула 30 чалавек. У таварыстве выратавання на водах даводзяць, што асноўная прычына ў няўстойлівым надвор'і, калі стаяць то маразы, то адліга. Таму таўшчыня льду малая і нетрывалая.

■ **На Віцебшчыне за апошняе дзесяцігоддзе прыкладна ўдвая паменела вучоных, што займаюцца канкрэтнымі навуковымі распрацоўкамі.** Разам з тым гэтыя кадры з кожным годам усё больш старэюць, моладзь на іх месцы не заступае. Са 120 дактароў навук, якія працуюць на сёння ў Віцебскай вобласці, палова мае ўзрост за 60 гадоў.

■ **Паводле дадзеных адмысловых службаў сталічных праваахоўных органаў, раскрывальнасць кватэрных крадзяжоў у Мінску складае 50%.** Самы распаўсюджаны спосаб, які абіраюць злачынцы, — узлом. Гэтак рабуюць палову кватэраў.

■ **Паводле Дзяржкамстату, у студзені 2001 года сярэдні налічаны заробак па Беларусі зменшыўся і склаў 84,5 тысячы рублёў.** У параўнанні са снежнем 2000 года ён скараціўся на 3,5%. Улічваючы рост цэнаў, рэальны заробак стаў меней на 7,9%.

■ **Пісьменніца Святлана Алексіевіч стала лаўрэатам прэміі імя Эрых-Марыя Рэмарка.** Былі адзначаныя ейныя творы «У вайны не жаночае аблічча», «Цынкавыя хлопчыкі», «Зачараваныя смерцю» і апошняя кніга «Чарнобыльская малітва». Узнагарода імя Рэмарка заснавана мэрыяй нямецкага горада Оснабрука, дзе той нарадзіўся. Прэмія даецца дзеячам культуры за абарону правоў чалавека і чалавечай годнасці.

■ **Прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі футбола Ёзэф Блатэр наведае сакавіцкі адборачны матч чэмпіянату свету паміж зборнымі Украіны і Беларусі.** Гэта сустрэча пройдзе ў Кіеве. Ёзэф Блатэр гэтым часам будзе знаходзіцца ва Украіне са спецыяльным візітам па агледзінах тэхнічнай футбольнай базы ў постсавецкіх краінах.

## «Вольная сцэна» распачынае



Кірыла ПАЗЬНЯК

Заўтра, 27 лютага, у тэатральнай зале Купалаўскага тэатра адбудзецца прэм'еры спектакль тэатра-студыі пры Саюзе тэатральных дзеячаў «Вольная сцэна». Старшыня СТД, драматург Аляксей Дудараў і мастацкі кіраўнік тэатра Валерый Мазынскі, між іншым абодва лаўрэаты Дзяржаўнай прэміі Беларусі представяць пастаноўку «Вечар». Гэта п'еса напісана А.Дударавым яшчэ 20 гадоў таму і ставілася раней ужо мноства разоў, але, на думку вольнасцэнаўцаў, не згубіла сваю актуальнасць і зараз.

На мінулым тыдні ў памяшканні Дома ветэранаў, дзе надалей плануе выступаць «Вольная сцэна», ішлі рэпетыцыі. У поўным сэнсе аўральныя, бо, нагадаем, у іх надарыўся неспадзяваны перапынак, звязаны з жорсткім збіцём Валерыя Мазынскага. Ён нават дачасна пакінуў шпіталь і вярнуўся да рэжысёрства, каб не давялося адкладаць запланаваную прэм'еру «Вечара». ■

# Фактор Латыпова

Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

**Уходящий февраль будет отмечен одной датой, о которой стоит вспомнить. 28 февраля исполняется 50 лет со дня рождения нынешнего государственного секретаря Совета безопасности Урала Латыпова. В установленной иерархии власти эта должность, пожалуй, является второй по значимости после главы государства.**

Спустя полгода после прихода А.Лукашенко к власти, у него появился помощник по внешнеполитическим вопросам Урал Латыпов. В отличие от многих других, пришедших вместе с 40-летним президентом к руководству Беларуси, появление 43-летнего доктора международного права в качестве помощника означало, что уже к концу 1994 года была очевидна необходимость подпитки новой власти профессионалами международного класса. Об этом свидетельствовали дипломы кандидата наук и доктора международного права, которые У.Латыпов защитил в Казанском университете и Российской академии наук. Его научные искания касались такой перспективной области, как международный терроризм. До сих пор неясными остаются истинные мотивы, которые побудили или вынудили сравнительно молодого полковника КГБ уволиться в запас. У.Латыпов работал на руководяще-оперативной должности в 2 управлении (контрразведка) КГБ СССР, а затем вернулся в Минск на должность заместителя начальника по учебной части престижных Высших курсов КГБ, выпускником которых сам был. Кстати, в этом учебном заведении учились нынешний директор ФСБ генерал Патрушев и секретарь Совета безопасности Российской Федерации Сергей Иванов. Теперь это учебное заведение называется Институтом национальной безопасности. До недавних пор его возглавлял бывший шеф военной контрразведки белорусского КГБ генерал Станислав Князев, ставший, с приходом У.Латыпова в Совет безопасности, одним из трех его заместителей. ▶

Окончание на стр.3

# Месца Беларусі засталося пустым

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**На паседжанні Пастаяннага камітэта Парламенцкай Асамблеі Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе, што прайшло 23-24 лютага ў Вене, Беларусь не прадстаўляў ніхто. У выніку прынятага «нулявога варыянту» крэслы беларускай дэлегацыі засталіся пустымі. З гэтага вынікае, што, на думку еўрапейскай супольнасці, на сённяшні момант у Беларусі не існуе дэмакратычна абранага дзейнага парламента.**

Мандатная камісія ПА АБСЕ не пацвердзіла правы прадстаўляць Беларусь для Вярхоўнага Савета 13-га склікання, але таксама не дазволіла браць удзел у паседжанні Нацыянальнаму сходу.

Нагадаем, што на паседжанне Пастаяннага камітэта ПА АБСЕ ў Вену накіравалася адразу дзве дэлегацыі — ад Вярхоўнага Савета і Нацыянальнага сходу. Абедзве яны праводзілі кансультацыі з еўрапейскімі парламентарыямі – аб прызнанні іхніх паўнамоцтваў. Але мандатная камісія раіла не надаваць паўнамоцтваў ніводнай дэлегацыі – ні афіцыйнай, ні апазіцыйнай.

Як паведаміў у інтэрв'ю Радыё «Свабода» прадстаўнік ад ВС-13, камуніст Віктар Хоміч, спачатку еўрапейскія парламентарыі разглядалі магчымасць, каб да ліпеня ў Парламенцкай Асамблеі АБСЕ прысутнічалі адразу дзве дэлегацыі ад Беларусі. Тым не менш, такое рашэнне было заблакаванае расійскім бокам.

У ПА АБСЕ рашэнні прымаюцца па формуле «еднасць мінус адзін». Таму голасу адной Расіі, дэлегацыя якой упарта адстойвае інтарэсы Аляксандра Лукашэнкі, было б недастаткова. І тут вырашальную ролю адыгралі парламентары Арменіі. Яны таксама прагаласавалі супраць прысутнасці дзвюх дэлегацыяў. Натуральна, што без падказкі «братняй Расіі» тут не абышлося.

У выніку было вырашана пакінуць месца Беларусі пустым – як мінімум, да летняй сесіі ПА АБСЕ, якая пройдзе 6-10 ліпеня ў Парыжы. Менавіта там мусіць быць прынятае канчатковае рашэнне па Беларусі. ▶

Заканчэнне на стар.3

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.yahoo.com

## Курс наяўнага долара на «чорным рынку»

1250

# Фактор Латыпова

*Окончание. Начало на стр.1*

Было бы неверно полагать, что, живя и работая в Беларуси, ставшей для него второй после Башкирии родиной и где он обзавелся семьей, интеллект У.Латыпова не был востребован. Будучи вице-президентом негосударственного Исследовательского института развития и безопасности, У.Латыпов в качестве руководителя группы международных экспертов участвовал в разработке внешнеполитической концепции суверенной Беларуси; в Конституции которой было провозглашено стремление к нейтралитету. Он также стал автором законопроекта об экспортном контроле. Следует отметить, что Беларусь стала первой из стран СНГ, принявшей этот закон. Фактор, сыгравший немалую роль в росте международного авторитета Беларуси. В свое время профессору У.Латыпову была предложена кафедра в Монтерейском институте международных отношений (США). Но судьба распорядилась по-другому.

По словам У.Латыпова, он не знает, кто его рекомендовал на работу к А.Лукашенко. Просто его на беседу пригласил тогдашний глава администрации Леонид Синицын, после которой и поступило предложение пойти работать помощником президента. Приход на службу к А.Лукашенко его новый помощник видел как вполне логичный шаг, так как, по его словам, голосовал на президентских выборах за А.Лукашенко, у которого, полагает У.Латыпов, будет долгая политическая карьера.

Одной из сфер деятельности помощника по международным вопросам стали средства массовой информации, отношение с которыми у А.Лукашенко довольно быстро стали портиться. Так, У.Латыпову было поручено разобраться со студией «Политика» на Белорусском телевидении, некоторые передачи которой вызвали государевый гнев. К чести У.Латыпова, он не стал в роли ментора учинять разборки, что журналистам очень запомнилось. Свою задачу в налаживании цивилизованных отношений с СМИ У.Латыпов видел в том, чтобы обеспечивать информацией о политике Беларуси окружающий мир. Интересно, что свое первое интервью в качестве помощника президента он дал негосударственному изданию.

За годы службы у президента было несколько моментов, когда фактор присутствия У.Латыпова становился заметен. Инициировав создание секретариата, куда вошли все помощники президента, и возглавив его, У.Латыпов аккумулировал прохождение, да и вхождение к президенту всего бумажного, информационного и людского потока к главе государства. Однако вскоре латыповский секретариат был упразднен. Появилось малоизвестное Управление внешней политики, текущей работой которого помощник президента и руководил. Через эту структуру до конца 1998 года фильтровались все мидовские, других министерств документы, связанные с внешней политикой. Правда, вряд ли через эту структуру проходили документы, вопросы, касающиеся оружейного бизнеса. Трудно сказать, насколько специалист по экспортному контролю У.Латыпов допускался к государственной деятельности, связанной с этой весьма интересной тематикой. Однако, став государственным секретарем Совбеза, он как-то незаметно, очевидно, возглавил комиссию по военно-техническому сотрудничеству. По крайней мере, его предшественник в Совбезе председательствовал в ней. Учитывая, что на последнем заседании российского Совбеза специально рассматривались вопросы экспортного контроля, надо полагать, в лице У.Латыпова его коллега С.Иванов получил компетентного союзника.

Примечательным моментом в карьере У.Латыпова можно считать его работу по подготовке блицкрига — создания содружества, а затем и Союза Беларуси с Россией. Именно он готовил с тогдашним своим кремлевским коллегой Дмитрием Рюриковым все документы, которые Б.Ельцин должен был подписать. Как известно, этой затее помешал тогдашний глава кремлевской администрации А.Чубайс, который в последнюю минуту смог откорректировать тексты этих документов. За инициативность, которая зачастую наказуема, Д.Рюриков был уволен. Для У.Латыпова эта неудача лишь обернулась недолгой паузой в видимой деятельности. Он по-прежнему оставался техническим работником, которые, как


Фота IREX/ProMedia

правило, ближе к «телу», нежели к политике. Такая близость и определяет степень влияния. Правда, порою спонтанность поведения «тела» приводила в буквально шоковое состояние ближайшее окружение. В качестве примера такого поведения можно вспомнить решение А.Лукашенко полететь на Олимпийские игры в Нагано. Были и другие поступки.

Видную роль У.Латыпов сыграл в проведении в ноябре 1996 года референдума, который до сих пор аукается Беларуси на международной арене. Тогда доктор права вместе с доктором философии И.Антоновичем, который вскоре возглавил МИД, написали секретный план по обеспечению внешнеполитической пропаганды, призванный оправдать спорные результаты референдума. Не удалось. Зато удалось заручиться поддержкой приезжавших в Минск миротворцев из Москвы — спикеров обеих палат Федерального собрания Е.Строева и Г.Селезнева, а также «газового» премьера В.Черномырдина. Говорят, что как раз «техническую» часть этого процесса помог обеспечить именно помощник президента. Впоследствии У.Латыпов неоднократно повторял, что принятая народом путем референдума конституция в международном признании не нуждается. По мнению некоторых высокопоставленных европейских дипломатов, такое своеобразное суждение и стало одной из причин внешнеполитической изоляции Беларуси. Приветствуя появление в Минске Консультативно-наблюдательной группы ОБСЕ, в одном из своих интервью У.Латыпов подчеркнул, что любые попытки подвергнуть ревизии результаты ноябрьского референдума бесперспективны. Но на самом деле бесперспективным оказался однобокий внешнеполитический курс, который упорно продолжает проводить правящий режим на протяжении всего времени своего существования. Иначе просто не может. Правда, иногда А.Лукашенко проявляет чувство самосохранения. Один из таких моментов подвиг правителя к признанию, а вернее, декларированию того факта, что необходимо активизировать так называемый западный вектор в своей внешней политике. Признаком такого признания принято считать произведенную реструктуризацию внешнеполитического ведомства. Был смещен с поста министра верный любой власти И.Антонович, на которого как бы навесили всех «дохлых кошек». Хотя всем понятно, что в условиях авторитарного режима иной, кроме президентской, внешней политики быть не может. Смещение «говоруна» И.Антоновича с поста главы внешнеполитического ведомства было стремительным и для него унизительным. Оказавшийся в «нокауте» опытный партаппаратчик И.Антонович не смог даже присутствовать, как это принято, на представлении лично главой государства нового министра иностранных дел.

Приход У.Латыпова в новый МИД, который вобрал в себя министерства внешнеэкономических связей и по делам СНГ, ознаменовался подписанием важного для Беларуси документа с Европейским Союзом, который предусматривает поэтапное урегулирование прерванных из-за Дроздов отношений. Одно из первых мероприятий, которое запомнилось многим, стало проведенное вице-премьером и министром иностранных дел У.Латыповым совещание с руководителями крупнейших предприятий Беларуси. Присутствовавших тогда впечатлил призыв нового руководителя внешнеполитического ведомства перестать надеяться на союз с Россией и начинать работать со всеми возможными объектами и субъектами в мире. Отныне главным критерием работы МИД и всех белорусских загранучреждений стал объем товарооборота и валютная выручка. Ведомству вице-премьера У.Латыпова придали статус главного внешнеполитического и внешнеэкономического координатора. О некогда влиятельном Управлении внешней политики администрации президента никто уже не вспоминает. На традиционном новогоднем приеме для журналистов новый глава МИД призвал всех присутствовавших работать на будущее Беларуси. Запомнились слова У.Латыпова и о том, что традиции уважительных взаимоотношений с журналистами, заложенные одним из его предшественников — Владимиром Сенько, ныне работающим послом Беларуси во Франции, будут сохранены.

Когда У.Латыпов встречал свой день рождения в ранге вице-премьера-министра иностранных дел, то, видимо, вряд ли он мог предвидеть, в свое время, такой свой карьерный взлет. Его призвали на службу государеву, когда довольно быстро стала очевидная некомпетентность тех, кто в 1994 году пришел к власти. Направив в МИД, похоже, перед ним ставили задачу устранить плоды этой некомпетентности, из-за которой Беларусь оказалась в глубоком кризисе и изгоем в мире.

Однако, в наступившем году важнейшей для правящего режима стала задача удержания власти. Поэтому большие надежды А.Лукашенко возлагает на основной орган своей власти — Совет безопасности. А вернее, на его аппарат — государственный секретариат. И вновь, обладая завидным для многих своих недругов чувством самосохранения, А.Лукашенко обращается за помощью к интеллекту У.Латыпова, назначая его госсекретарем Совета безопасности. По словам А.Лукашенко, в создавшейся ситуации понадобились аналитическая и прогностическая составляющие в работе госсекретариата СБ. Однако, так уж, видимо, совпало, в отличие от начала работы в МИД с замирения с Евросоюзом и США, появление в Совбезе ознаменовалось новым противостоянием с Вашингтоном, посла которого нарочито долго правитель держал в прихожей своей резиденции с верительными грамотами. Надо полагать, что 22 февраля было не только памятным для посла США Майкла Козака днем, когда он-таки лично смог познакомиться с главой белорусского государства. В этот день в США отмечают день рождения одного из своих основателей Джорджа Вашингтона.

Некоторые наблюдатели полагают, что назначение У.Латыпова стало и достойным ответом Кремлю, который, как утверждают компетентные источники, настаивал на замене некогда всесильного Виктора Шеймана, явно не тянувшего, по мнению российских союзников, необходимый уровень взаимопонимания с секретарем российского Совбеза Сергеем Ивановым. А тут воспитанники одной структуры. Правда, один разведчик, а другой — контрразведчик. Приемлемые дополнения для союзного государства. И эта разница почти никак не сказывается на их полномочиях. По своим функциям оба Совбеза в своих государствах практически тождественны. Произведенные недавно кадровые и структурные преобразования в аппарате белорусского Совбеза тому свидетельство. Стоит отметить, что среди трех новых заместителей госсекретаря оказались два генерала, которых своенравный А.Лукашенко уже выгонял со службы. Причем публично и по разным причинам. Но У.Латыпову удалось убедить правителя вернуть некогда униженных генералов на службу. И вновь служить они стали самозабвенно. А об эффективности работы нового руководства аппарата Совбеза можно уже судить хотя бы по тому положению, в котором находится белорусская оппозиция. ■

# Беларускія танкі ў пясках Марока

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

**Сярод асноўных пакупнікоў беларускай зброі аказалася паўночнаафрыканская краіна Марока.**

Беларусь пастаўляе вайсковую тэхніку ў Марока не першы год. Пераважна гэта танкі Т-72, адрамантаваныя на танкарамонтным заводзе ў Барысаве. Адмыслоўцы гэтага завода праводзяць і выпрабаванні танкаў на палігонах у Марока. Некалькі разоў на год туды ляціць група беларускіх тэхнікаў і вадзіцеляў, а самі танкі вязуць морам праз порт Новарасійск.

Натуральна, Беларусь гандлюе былымі савецкімі танкамі, бо сваіх танкавых заводаў, у адрозненне ад Расіі і Украіны, не мае. На танкарамонтны завод у Барысаве, больш вядомым як «140-ы завод», у першыя гады незалежнасці Беларусі з вайсковых частак былі звезеныя сотні танкаў, якія, паводле дамовы аб звычайных узбраеннях у Еўропе належала знішчыць. Сабе Беларусь, згодна з гэтай жа дамовай, магла пакінуць толькі 1.800 танкаў.

У сярэдзіне 90-ых гадоў было абвешчана, што Беларусь свае абавязацельствы выканала: маўляў, усе лішкі адпраўленыя на пераплаўку, і калі краіна гандлюе танкамі, дык толькі тымі, што ўваходзяць у дазволеную квоту. Так сцвярджаюць беларускія афіцыйныя асобы.

Між тым, крыніца з Барысаўскага танкарамонтнага завода не бярэцца пацвердзіць гэтыя заявы. «Старой тэхнікі, годнай для продажу пасля адпаведнага рамонту, яшчэ шмат. У тым ліку і ў ангарах вайсковых частак, куды ніякая міжнародная праверка не даходзіла», – паведаміла крыніца з завода. Паводле іншых адмыслоўцаў, нават легальныя магчымасці дазваляюць Беларусі зарабляць вялікія грошы на гандлі танкамі. На сусветным рынку танк Т-72, якімі гандлюе Беларусь, каштуе да 200 тысяч долараў. Адмыслоўцы лічаць, што ў Марока было прададзена прыкладна 50 танкаў за 2–3 гады. Такім чынам, гэты кантракт склаў каля 10 мільёнаў долараў. Між тым, паводле ацэнак, пастаўкі ў Марока – толькі пятая частка нашага гандлю танкамі.

Аднак, куды пайшлі заробленыя грошы? Былы міністр абароны Павел Казлоўскі лічыць гэтае пытанне галоўным у сферы гандлю зброяй. Паводле Казлоўскага, беларуская армія з гэтага амаль нічога не атрымлівае, а ўсе прыбыткі асядаюць у спецыяльным прэзідэнцкім фондзе, якім распараджаецца Аляксандр Лукашэнка. «Выключна ў сваіх палітычных мэтах», – дадае Павел Казлоўскі. Ён прыводзіць прыклад галоўнага вайсковага шпіталю, дзе, паводле ягоных дадзеных, сродкаў не хапае нават на лекі і бінты, не кажучы ўжо пра дарагое замежнае абсталяванне. «Становішча ў войску такое ж – тэхніка не абнаўляецца, заробкі афіцэраў надзвычай нізкія. Грошы, заробленыя ў Марока ці іншых краінах, гэтае становішча ніяк не выпраўляюць. Яны ідуць на пабудову лядовых палацаў ды правядзенне гучных з'ездаў для дэманстрацыі народнай падтрымкі першаму прэзідэнту», – лічыць былы міністр абароны.

А ці ўдаецца зарабіць на «мараканскім танкавым кантракце» барысаўчанам? Канешне, прадпрыемства працуе даволі стабільна і дзякуючы гэтаму рабочым удаецца плаціць ад 70 да 100 долараў штомесяц – для Барысава гэта нядрэнны ўзровень. Удаецца зарабіць капейку і тым, каму пашчасціць з'ездзіць у Марока на выпрабоўку адрамантаваных танкаў. Сутачныя ідуць у валюце, і ў выніку за камандзіроўку набягае некалькі соцень долараў. ■

# Месца Беларусі засталося пустым

*Заканчэнне. Пачатак на стар.1*

Напярэдадні ад'езду ў Вену старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі, віцэ-спікер ВС-13 Анатоль Лябедзька назваў «нулявы варыянт» найгоршым развіццём падзеяў. У сваю чаргу, дэпутат Нацыянальнага сходу Мікалай Шпілеўскі меркаваў, што гэта будзе «перамогай афіцыйнага Мінска».

Парламенцкая Асамблея АБСЕ – вельмі ўплывовая еўрапейская структура. Беларусь з'яўляецца адным з чальцоў АБСЕ, і той факт, што афіцыйную дэлегацыю не дапусцілі да ўдзелу ў працы ПА, сведчыць пра агульнае стаўленне Еўропы да беларускага рэжыму і легітымнасці гэтай дэлегацыі. З другога боку, каляндарны тэрмін дзеяння паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета 13-га склікання сапраўды скончыўся летась, і таму рашэнне мандатнай камісіі ПА АБСЕ выглядае заканамерным.

Пры гэтым Злучаныя Штаты працягваюць лічыць ВС-13 дзейным беларускім парламентам. Пра гэта заявіў у пятніцу ў эксклюзіўным інтэрв'ю Радыё «Свабода» амбасадар ЗША ў Беларусі Майкл Козак. Вось вытрымка з гэтага інтэрв'ю:

«— На тле бягучых дыскусіяў у Вене на паседжаннях структураў Парламенцкай Асамблеі АБСЕ – ці будзе ўрад ЗША працягваць прызнаваць Вярхоўны Савет 13-га склікання адзіным легітымным парламентам Беларусі?

— Так.

— Кароткі адказ «так»?

— Так, кароткі адказ – «так». Злучаныя Штаты працягваюць прызнаваць Вярхоўны Савет 13-га склікання. Нашае разуменне, якое вынікае з разгляду справы ў Канстытуцыйным судзе Беларусі, палягае ў наступным. Нават калі тэрмін таго парламента падышоў цяпер да канца – пакуль ягонае месца не зойме парламент, абраны паводле ды ў межах Канстытуцыі, – ён будзе працягваць паседжанні як легітымны парламент, пакуль яго належным чынам не зменіць новы. Гэткім чынам, кароткі адказ – так, мы працягваем прызнаваць Вярхоўны Савет 13-га склікання».

Як вядома, афіцыйныя заявы амбасадара любой краіны прадстаўляюць афіцыйны погляд гэтай краіны.

Мы папрасілі пракаментаваць падзеі ў Вене Андрэя Саннікава, міжнароднага каардынатара Хартыі'97:

— Перш за ўсё, фактычна рашэнне па Беларусі не было прынятае. Пастаянны камітэт ПА АБСЕ не мае паўнамоцтваў прымаць рашэнні, ён можа толькі займацца падрыхтоўчай працай. Само рашэнне мусіць зацвярджацца сесіяй Парламенцкай Асамблеі АБСЕ, і бліжэйшая сесія адбудзецца ў ліпені.

Я хацеў бы зазначыць, што ідзе падвышэнне ставак прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі. У бок беларускіх уладаў быў дадзены сігнал, што месца Вярхоўнага Савета вызваляецца. З другога боку, гэта відавочны сігнал апазіцыі, дэмакратычным сілам краіны пра тое, што неабходна вырашыць усе ўнутраныя пытанні і перамагчы на прэзідэнцкіх выбарах. Такім чынам, на дэмакратычныя сілы ўскладаецца вялікая адказнасць.

Што датычыць уладаў, то ім у рэшце рэшт прыйдзецца вярнуцца да выканання вядомых чатырох умоваў, прапанаваных міжнароднай супольнасцю (усталяванне «клімату даверу» ў краіне, доступ апазіцыі да электронных сродкаў масавай інфармацыі, змяненне Выбарчага кодэкса і наданне рэальнай улады парламенту. – **Р.П.**). Нават трох – пытанне пра функцыі парламента напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў будзе не вельмі актуальнае. Інакш прэзідэнцкія выбары будуць прызнаныя недэмакратычнымі.

Але як бы ні прайшлі прэзідэнцкія выбары, «палатцы» няма на што разлічваць у Еўропе. Бо ўмовы, на якіх яна абіралася, былі прызнаныя недэмакратычнымі.

І галоўнае – тое, што нічога ўстаўленні да нас ПА АБСЕ і самой АБСЕ не змянілася. «Беларускае пытанне» па-ранейшаму застаецца вельмі актуальным для Еўропы. ■



# Фінансавы крызіс у Турцыі

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**У Турцыі разгарэўся глыбокі эканамічны і фінансавы крызіс. Курс нацыянальнай валюты – турэцкай ліры – за два дні знізіўся на 36%. Кіруючы Цэнтральным банкам краіны Газі Эрджэль ужо падаў у адстаўку. Тым не менш, прэм'ер-міністр Турцыі Бюлент Эджэвіт у адстаўку падаваць не збіраецца, хоць шмат хто ў Турцыі яго да гэтага заклікае.**

Пазаўчора урад Турцыі збіраўся на экстраннае паседжанне, на якім абмяркоўваліся шляхі вываду эканомікі краіны з крызісу. Да пачатку паседжання Б.Эджэвіт паведаміў, што не збіраецца пакідаць сваю пасаду ані звальняць каго-небудзь з складу кабінета міністраў. Пасля заканчэння паседжання ён жа заявіў, што ўжо ў панядзелак – сёння – урад прадставіць шэраг захадаў, якія дапамогуць «узняць эканоміку да прымальнага ўзроўню».

Як паведамляюць інфармацыйныя агенцтвы свету, усе крэдыты, атрыманыя ад Міжнароднага валютнага фонду, былі пушчаныя на падтрыманне турэцкай ліры, але гэта слаба дапамагло. У выніку Цэнтральны банк Турцыі з дазволу МВФ адпусціў курс ліры.

Аналітыкі адзначаюць, што валютны крызіс стварыў перадпасылкі для далейшага істотнага пагаршэння сітуацыі, бо банкі краіны праводзілі палітыку, скіраваную на стабільны курс валюты.

Самыя смелыя эксперты прадказваюць магчымасць адмовы Турцыі плаціць па ўнутраных даўгах. Калі гэта адбудзецца, то сусветны фінансавы рынак можа адчуць удар, параўнальны з крызісам у Паўднёва-Усходняй Азіі ў 1997 годзе.

Тым часам, намеснік кіраўніка казначэйства Турцыі Селкук Дэміралп рэзка раскрытыкаваў дзейнасць урада краіны. У інтэрв'ю папулярнаму выданню *Sabah* ён заявіў, што палітыкі мусяць адчуць адказнасць за свае памылкі і пайсці. Такім чынам, С.Дэміралп далучыўся да шматлікіх прадстаўнікоў апазіцыі, сродкаў масавай інфармацыі, прафсаюзаў і бізнесменаў, якія патрабуюць адстаўкі цэлага шэрагу міністраў, па віне якіх ліра страціла больш чым трэцюю частку сваёй вартасці, а працэнтная стаўка ў краіне усталявалася на рэкордным узроўні 5.000%.

Намеснік кіраўніка казначэйства звярнуўся да ўрада з заклікам тэрмінова памяняць некалькі чалавек на ключавых пасадах, а таксама зрабіць паварот ва ўсёй стратэгіі дзейнасці ўрада. На ягоную думку, гэта можа прывесці да стабілізацыі фінансавага сектара.

Па словах С.Дэміралпа, «пажар разгарэўся ў машынным аддзяленні карабля пад назвай «эканамічная праграма», асабліва ў тых аспектах, што датычаць манетарысцкай і валютнай палітыкі». У якасці захадаў па выхадзе з крызісу ён прапанаваў «узняць мараль народа, і зрабіць гэта трэба неадкладна». Намеснік кіраўніка казначэйства падкрэсліў, што трэба тэрмінова звольніць некалькіх міністраў, «пакуль яшчэ не позна, на працягу наступнага тыдня».

Цікава дарэчы, што падчас усёй гэтай панікі на фінансавым рынку Турцыі біржавыя індэксы не зменяліся. Пра гэта паведаміла кампанія *BBC*. Яе аналітыкі падкрэсліваюць, што паколькі асноўным рухавіком рынка ў Турцыі з'яўляюцца турыстычныя кампаніі і лёгкая прамысловасць, то фінансавы крызіс і падзенне курсу ліры могуць пайсці на карысць нацыянальнай эканоміцы.

У вельмі цяжкім становішчы апынуліся банкі. Яны яшчэ не прызвычаіліся жыць ва ўмовах свабодна плаваючага курсу ліры і пры высокіх працэнтных стаўках. Ужо сёння відавочна, што выжывуць далёка не ўсе з іх.

Тым не менш, учора Цэнтральны банк паабяцаў фінансавую падтрымку прыватным банкам. Лічыцца, што золатавалютных рэсурсаў ЦБ хопіць для таго, каб выратаваць шмат якія банкі. Але для гэтага ім усім спатрэбіцца праводзіць узгодненую палітыку, а таксама пагасіць палітычны крызіс. І тады, як мяркуюць аналітыкі, агульнае падзенне ліры складзе не больш за чвэрць.

Дарэчы, самай пацярпелай краінай ад турэцкага крызісу лічыцца Германія – большая частка даўгавых абавязацельстваў Турцыі прыходзіцца на нямецкіх інвестараў.

Турэцкія эканамісты паведамілі, што страты ад крызісу і падзення ліры будуць праяўляцца ў росце цэнаў, замаруджванні эканамічнага росту і павелічэнні дзяржаўнага доўгу. Толькі знешні доўг краіны на сённяшні дзень складае 107 мільярдаў долараў. ■

Рэзкае падзенне курсу ліры выклікала паніку на валютнай біржы

# У ваколіцах Грознага знойдзена масавае захаванне



На ўскраіне Грознага недалёка ад Ханкалы на тэрыторыі былога дачнага пасёлка выяўлена масавае захаванне. Першапачаткова паведамлялася, што ў равах знаходзіцца не меней 200 целаў. Потым ваенная камендатура зменшыла лічбу да «некалькіх дзесяткаў». Амаль усе загінулыя – чачэнцы, большыня з іх забіта з агнястрэльнай зброі. У паведамленнях адзначаецца, што гэтыя людзі забіты ў розны час, і не былі баевікамі, якія маглі загінуць мінулай зімой пры штурме горада. Масавае захаванне рэгулярна папаўнялася новымі ахвярамі. ■

# Арыштаваны шэф спецслужбаў

Міхась КАРПОВІЧ

Былы начальнік дзяржаўнай службы бяспекі Югаславіі, адзін з найбліжэйшых саратнікаў былога прэзідэнта Слабадана Мілошавіча Радэ Маркавіч быў арыштаваны ў суботу сербскай паліцыяй.

Як паведаміў на тэрмінова скліканай прэс-канферэнцыі ў Бялградзе міністр юстыцыі Сербіі Уладан Баціч, Р.Маркавіч абвінавачваецца ў арганізацыі наўмыснага забойства. Крымінальны кодэкс Сербіі прадугледжвае не менш за 10 гадоў турэмнага зняволення за арганізацыю такога злачынства.

Уладан Баціч адзначыў, што размова ідзе пра аўтакатастрофу, што адбылася ў кастрычніку 1999 года пад Бялградам на Ібарскай магістралі. У адной машыне тады ехалі разам лідэр югаслаўскай апазіцыі, старшыня партыі Сербскі рух абнаўлення Вук Драшкавіч і яшчэ чатыры функцыянеры партыі. У выніку раптоўнага сутыкнення з грузавіком Вук Драшкавіч атрымаў цялесныя пашкоджанні, а ўсе ягоныя спадарожнікі загінулі. Цяпер югаслаўскае правасуддзе бярэцца даказаць, што катастрофа была падстроеная спецслужбамі. Апроч таго, Радэ Маркавіч абвінавачваецца таксама ў наўмыснай фальсіфікацыі дакументаў па гэтай справе.

Начальнік дзяржаўнай службы бяспекі лічыўся адным з найбліжэйшых саратнікаў прэзідэнта, але выконваў свае абавязкі ажно да 25 студзеня гэтага года – больш за тры месяцы пасля адхілення ад улады Слабадана Мілошавіча. Былы шэф спецслужбаў быў арыштаваны па патрабаванні акруговай пракуратуры Бялграда.

Эксперты адзначаюць, што арышт Р.Маркавіча сведчыць пра тое, што становішча С.Мілошавіча становіцца ўсё больш незайздросным. Магчыма, што начальнік тайнай паліцыі, адказны за пераслед югаслаўскай апазіцыі, стане асноўным сведкам на працэсе супраць былога дыктатара.

Разам з Р.Маркавічам былі арыштаваныя яшчэ некалькі афіцэраў паліцыі, чые імёны не называюцца.

Журналісты югаслаўскіх сродкаў масавай інфармацыі адзначаюць, што Радэ Маркавіч быў бліжэйшы за астатніх кіраўнікоў сілавых структураў да «цела прэзідэнта». Сваю кар'еру ён пачынаў як ахоўнік сына былога дыктатара, Марка Мілошавіча. Потым узняўся да пасады начальніка паліцэйскага ўпраўлення Бялграда, а адтуль пайшоў на павышэнне ў міністэрства ўнутраных справаў Югаславіі. У 1998 годзе Радэ Маркавіч стаў кіраўніком дзяржаўнай службы бяспекі.

Апазіцыя мяркуе, што на ягоным сумленні некалькі замоўных забойстваў. Праваабарончая арганізацыя «Цэнтр гуманітарнага права» сцвярджае, у прыватнасці, што Р.Маркавіч аддаў загад аб ліквідацыі журналіста Слаўка Чурувіі, рэдактара адной з апазіцыйных газетаў.

Дарэчы, асобай Радэ Маркавіча зацікавіўся ўжо Міжнародны трыбунал па ваенных злачынствах у былой Югаславіі. Пакуль што справу яго не высунута абвінавачванняў, але Гаага вельмі чакае сведкаўскіх паказанняў былога кіраўніка спецслужбаў. ■

# Россия победила в войне

## На командно-штабной тренировке 13-16 февраля

Сергей СОКУТ

**ДЕНЬ защитника Отечества высшее руководство России отметило традиционным образом: президент Путин возложил венок к Могиле Неизвестного Солдата и вручил государственные награды военнослужащим, отличившимся в боях на Северном Кавказе. Не исключено, что Верховный главнокомандующий поблагодарил руководство Минобороны и Генштаба за вклад, который внесли Вооруженные силы в создание военно-политического фона для переговоров с генсеком *NATO* и полемики по проблеме НПРО с новой администрацией США.**

Речь идет о стратегической командно-штабной тренировке ВС РФ, которая была проведена в период с 13 по 16 февраля. Цель маневров, которыми руководил начальник Генерального штаба ВС Анатолий Квашнин, была названа стандартно-унылая: совершенствовать практические навыки руководящего состава по управлению Вооруженными силами. Сценарий учений держится в секрете, но анализ показывает, что военные отрабатывали действия в полномасштабной ядерной войне.

Начальная фаза конфликта, по-видимому, обозначалась лишь на картах, а войска приступили к делу, когда он перешел в стадию обмена ударами стратегических сил. Первыми вступили в учебный бой ВВС, выполнившие ряд дальних полетов на востоке и на западе. Именно они вызвали широкий резонанс за рубежом и обвинения в нарушении воздушной границы Японии бомбардировщиками Ту-22М3, выполнявшими в сопровождении истребителей Су-27 задачи в проливе Лаперуза. «Тушки», по всей видимости, отрабатывали прорыв с аэродромов Приморья в Тихий океан с целью поиска и уничтожения авианосной группы противника. По взглядам российских военных, в начальной фазе крупномасштабного конфликта именно авианосные группировки, включающие корабли - носители крылатых ракет, будут основной угрозой для объектов на территории нашей страны.

Одновременно два стратегических бомбардировщика Ту-160 с авиабазы Энгельс (Саратовская область) выполнили полеты вдоль берегов Норвегии в Северное море (как говорят авиаторы, «за угол»). В учениях прошлых лет ракетоносцы 37-й воздушной армии в таких полетах выходили на рубежи пуска крылатых ракет в Северной Атлантике. На этот раз конечная точка маршрута лежала в 150 км от берегов туманного Альбиона. Как и в июле 1999 г., система ПВО Норвегии несвоевременно обнаружила российских «стратегов». Тем не менее на их перехват поднимались и норвежские F-16, и британские «Торнадо».

Сценарии ряда учений последних лет предусматривали, что после ядерных ударов крылатыми ракетами по военным целям в малонаселенной местности или просто по пустынной акватории (в Генштабе такие удары называют демонстрационными) конфликт переходил в стадию затухания. На этот раз все было по-другому. То ли Москва решила показать Вашингтону, что разговаривать на повышенных тонах еще не разучилась, то ли отрабатывался сценарий, в рамках которого США, уже развернувшие средства стратегической ПРО, не испугались демонстраций и продолжили эскалацию войны, рассчитывая отсидеться за противоракетным щитом.

Так или иначе, за ограниченным применением ядерного оружия последовал массированный удар всеми стратегическими наступательными силами России. Судя по некоторым данным, сценарий учений предусматривал, что пуски ракет выполнялись в кратчайшее время, скорее всего после того, как система предупреждения о ракетном нападении (СПРН) зафиксировала старты противника.

Войска обозначали эту фазу учений 16 января, когда почти одновременно РВСН и ВМФ выполнили пуски баллистических ракет по камчатскому полигону Кура. С космодрома Плесецк стартовала МБР РС-12М «Тополь», из акватории Баренцева моря – БРПЛ неназванного типа. Одновременно на своих стартовавших ракетах отработала свои задачи в тренировке и российская СПРН.

На этапе «тотальной ядерной войны» получила новую задачу и Дальняя авиация. Ракетоносцы Ту-95МС во взаимодействии с самолетами-заправщиками Ил-78 совершили через Северный полюс бросок к территории Канады. Одновременно другие ракетоносцы выполнили тактические и учебно-боевые пуски крылатых ракет Х-55 и Х-22 на южном полигоне.

Эксперты военного ведомства тренировку оценивают как успешную. Войска справились со своими задачами и победили обозначенного на картах противника, а Москва продемонстрировала Вашингтону свою решимость поддерживать ядерный паритет. ■

НГ



Камандна-штабныя гульні расійскіх ваенных яскрава сведчаць, што жаданне нашага кіраўніцтва аб'яднаць Беларусь з Расіяй у адно палітычна-ваеннае цела затойвае ў сабе вялікую небяспеку для народа. Саюз з дзяржавай, якая зноў імкнецца прадэманстраваць свету моц сваёй ваеннай дубіны, можа абярнуцца стратэгічнымі бедствамі і для нашай гаспадаркі, і для беларускага насельніцтва. Варта ведаць, што Расія больш дбае пра адраджэнне імперскай сілы, чым пра дабрабыт народаў, якія складаюць дзяржаву. Людзей запужваюць *NATO*, каб яны не патрабавалі добрага жыцця, а радаваліся, што жывыя.

# Генры Кісінджэру прыйдзецца абараняцца

З нечаканымі абвінавачваннямі былога дзяржаўнага сакратара ЗША Генры Кісінджэра ў чалавечнасці выступіў амерыканскі часопіс «Харперз мэгэзін». У апублікаваным падрабязным (займае 52 старонкі) даследаванні дзейнасці гэтага сусветна вядомага палітыка аўтар прыводзіць у якасці доказаў віны тыя закулісныя меры, што прымаліся Генры Кісінджэрам у адносінах В'етнама, Камбоджы, Чылі і ПАР. Аналізуючы знешнюю палітыку Вашынгтона ў перыяд 1969-1973 гадоў, калі пры ўладзе ў ЗША знаходзілася адміністрацыя прэзідэнта Рычарда Ніксана, аўтар артыкула Крыстафер Хітчанс адзначае, што некаторыя дзеянні Кісінджэра падпадаюць судоваму пераследу. Сярод іх, на ягоную думку, «распрацоўка планаў ліквідацыі высокапастаўленага чыноўніка Чылі, з якой ЗША не былі ў стане вайны». Гаворка ідзе пра лёс забітага чылійскага генерала Рэнэ Шнейдэра, які быў палітычным праціўнікам дыктатара Аўгуста Пінача. Журналіст спасылаецца на рассакрэчаныя дзяржаўным дэпартаментам ЗША дакументы таго часу.

На думку аўтара, свет цяпер перайшоў у такую эпоху, калі суверэнная абарона імунітэту злачынцаў ужо не дзейнічае, галоўным чынам дзякуючы «бліскучай актыўнасці іспанскіх следчых» (маецца на ўвазе знакаміты судовы следчы Бальтасар Гарсон, па распараджэнні якога ў Лондане быў арыштаваны А.Пінача). Журналіст, выступаючы на прэс-канферэнцыі ў Нацыянальным клубе друку ў Вашынгтоне, адзначыў, што многія палітычныя партнёры Г.Кісінджэра ў Грэцыі, Чылі, Аргенціне, Інданезіі сядзяць у турмах ці чакаюць суда за свае мінулыя дзеянні.

Мінулым годам Генры Кісінджэр выдаў свае палітычныя мемуары, якія раскрываюць напружаны змест міжнароднай палітыкі 60-х гадоў, калі звышдзяржавы супрацьстаялі адна адной ва ўсіх сферах геапалітыкі. ■

# Альтэрнатыўная служба:
## 18 месяцаў у арміі ці 27 у калгасе?

Алена ЛАБАНАВА

Па выніках апошняй прызыўной кампаніі 2000 года 57% хлопцаў прызыўнога ўзросту па ўсёй Беларусі былі прызнаныя нягоднымі да вайсковай службы па стане здароўя. Абсалютнае лідэрства па гэтым паказчыку належыць Заводскаму раёну горада Мінска, дзе па выніках летняй прызыўной кампаніі 1999 года стан здароўя 89% маладзёнаў не дазваляў прызываць іх на тэрміновую вайсковую службу. Тым не менш, па словах намесніка старшыні аддзела камплектавання арганізацыйна-мабілізацыйнага ўпраўлення Галоўнага штаба Узброеных сілаў Віктара Новікава, на цяперашні момант армія ўкамплектаваная напоўную. У параўнанні з 1992 годам, калі была зафіксавана найбольшая колькасць нежадаючых служыць, ухіленняў ад прызыву паменела. Цяжкасці выклікае штогод толькі восеньскі прызыў, калі багата патэнцыйных прызыўнікоў пазбягае арміі, ідучы ў навуку.

Галоўны штаб УС адсочвае дэмаграфічную сітуацыю ў краіне, і, па прагнозах вайскоўцаў, у бліжэйшыя 10 гадоў недахопу ў прызыўніках не чакаецца. Тым больш ёсць такі рэзерв як умоўна асуджаныя і асобы, адносна якіх вядзецца следства. Зараз іх служыць у армію ніхто не прызывае, але гэта магчыма пры двух умовах: калі будзе недабор звычайных прызыўнікоў і «асобае ўказанне» аб іх прызыве. Альбо пры недаборы могуць пераняць вопыт усходніх суседзяў — у Расіі міліцыя затрымлівае на вуліцах усіх юнакоў прызыўнога ўзросту і правярае іх на факт ухілення ад службы ў войску.


Фота Ул. ШЛАПАКА

22 лютага напярэдадні Дня абаронцаў Айчыны маладыя беларускія анархісты палядь прапісныя каля Мінскага абласнога ваенкамата

На думку сацыёлагаў з Інстытута сацыяльна-палітычных даследаванняў, дэмаграфічнае становішча павінна выклікаць больш заклапочанасці ў вайскоўцаў. Паколькі зараз прырост насельніцтва адмоўны (-4,67%), то ў бліжэйшае дзесяцігоддзе колькасць беларусаў паменее да 7,5-8 мільёнаў чалавек. Ужо зараз 12% насельніцтва складаюць тыя, каму за 60 гадоў і пры гэтым сярэдняя працягласць жыцця мужчыны 62 гады. Такім чынам актуальнасць стварэння арміі на прафесійнай аснове з кожным годам расце.

Не менш цяжкасцяў стварае для Генеральнага штаба адмоўнае стаўленне насельніцтва, асабліва якраз асобаў прызыўнога ўзросту да службы ў арміі. Апытанне, праведзенае сацыёлагамі сярод старшакласнікаў, навучэнцаў ПТВ, студэнтаў і маладых афіцэраў, дало несуцяшальныя вынікі. Для 64,2% апытаных вайсковая служба займае значнае месца ў жыцці, з якіх 75% вайскоўцаў тэрміновай службы і 18,5% — навучэнцы. 20,3% моладзі ўвогуле адмоўна ставяцца да вайсковай службы. Толькі 19,5% старшакласнікаў, 13,9% навучэнцаў ПТВ і 3,2% студэнтаў ВНУ адзначылі, што вайсковая служба — значны складнік іх жыцця. Нязначнасць службы для сябе падкрэсліў 47% навучэнцаў ПТВ і абсалютная большасць студэнтаў ВНУ. Патрыятызм з'яўляецца жыццёвай каштоўнасцю толькі для 21,3% моладзі, у тым ліку для 17,8% студэнтаў і толькі для 26,3% маладых афіцэраў, а пачуццё абавязку — для 38,6% апытанай моладзі, у тым ліку для 43,2% афіцэраў і 30,2% студэнтаў. Такім чынам, можна канстатаваць толькі аб адсутнасці прыстыжу армейскай службы нават сярод саміх вайскоўцаў.

Законапраект аб альтэрнатыўнай службе толькі скончылі распрацоўваць, верагодна, што закон можа быць прыняты гэтай вясной. Па словах Віктара Новікава, нават калі закон аб альтэрнатыўнай службе будзе прыняты, масавага адтоку з вайсковых шэрагаў не чакаецца, бо тэрмін праходжання альтэрнатыўнай службы даўжэй за вайсковую. Калі вайсковая служба складае 18 месяцаў, а для асобаў з вышэйшай адукацыяй — 12 месяцаў, то альтэрнатыўная адпаведна 27 і 18 месяцаў. На падставе замоваў з прадпрыемстваў мясцовыя ўлады будуць накіроўваць прызыўнікоў працаваць у калгасы, на заводы, будоўлі. Прызыўнік не можа быць заняты на адказных ці кіруючых пасадах, і нават спецыяліст з вышэйшай адукацыяй будзе праходзіць службу ў якасці простага працаўнага. Праца павінна прадастаўляцца ў межах тэрыторыі жыхарства, каб была магчымасць кожны дзень вяртацца дахаты. А калі гэта немагчыма, то прадпрыемства павінна прадаставіць інтэрнат і трохразовае харчаванне, роўнае пайку салдата тэрміновай службы. Атрымліваць ад свайго поўнага заробку «альтэрнатыўшчык» будзе толькі 80%, а 20% будуць пералічвацца ў мясцовыя выканкамы.

Паглядзім, што выбярэ моладзь. ■

# Маладыя грамадзянін Еўропы

Аляксей АРЭШКА

Маладыя людзі Беларусі ва ўзросце ад 18 да 28 гадоў, якія ўнеслі асаблівы, выдатны ўклад ва ўсталяванне разумення паміж народамі і ў еўрапейскую інтэграцыю, могуць прэтэндаваць на званне «Маладыя грамадзянін Еўропы». Пра гэта паведаміла кіраўнік інфармацыйнага цэнтра Беларускага нацыянальнага маладзёжнага савета Дзіяна Манеўская.

Паводле яе словаў, такое ўзнагароджанне раз у год праводзіць нямецкі Фонд імя Хайнца Шварцкопфа «Маладая Еўропа». Прэмія, якую прадастаўляе фонд, складае 10 тысячаў нямецкіх марак. Яе ўручэнне прадугледжвае таксама праходжанне паўгадовай практыкі пры дэпутаце Еўрапейскага парламента або ў якой-небудзь еўрапейскай арганізацыі.

Як адзначыла Дзіяна Манеўская, фонд шукае творчых і ініцыятыўных маладых людзей, якія згодныя з тым, што варта выкарыстаць шанц нашай эпохі і жыць у мірнай і рознай Еўропе. Фонд імя Хайнца Шварцкопфа звярнуўся ва ўсе нацыянальныя і міжнародныя еўрапейскія маладзёжныя арганізацыі (у тым ліку і ў Беларускі нацыянальны маладзёжны савет) з просьбай прапанаваць кандыдатуры дастойных маладых людзей, якія могуць прэтэндаваць на такі ганаровы тытул, і запоўніць адпаведную анкету.

Усе анкеты, прысланыя да 15 сакавіка 2001 года, будуць разглежаныя праўленнем фонду імя Хайнца Шварцкопфа «Маладая Еўропа». Лаўрэат прэміі гэтага года возьме ўдзел у рабоце Маладзёжнага парламента ў Англіі і ў Берлінскім прадстаўніцтве Еўрапейскай камісіі. ■

БелаПАН

# Фордаўскія прэміі за абарону наваколля

Аляксей АРЭШКА

22 лютага Форд Мотар Компані аб'явіла аб конкурсе праектаў у галіне абароны навакольнага асяроддзя і культурна-гістарычных каштоўнасцяў у Беларусі ў 2001 годзе.

Як паведаміў каардынатар па сувязях з грамадскасцю Форд Мотар Дзмітрый Мокшын, гэтая праграма з'яўляецца працягам праекта «Еўрапейскія прэміі Генры Форда па абароне навакольнага асяроддзя і культурных каштоўнасцяў». У Беларусі праграма была ўпершыню абвешчаная ў 1997 годзе. Напрыклад, у 1999 годзе журы было разгледжана больш за 1,5 тысяч заявак. Паводле вынікаў конкурсу былі вызначаны пераможцы. Усяго за 17 гадоў існавання праграмы больш за 15 тысяч арганізацыяў і асобаў у 34 еўрапейскіх краінах узялі ўдзел у конкурсе.

Прыватным асобам і арганізацыям прапанавана прадставіць на разгляд кампетэнтнага журы свае праекты па чатырох катэгорыях: «навакольнае асяроддзе» (ахова флоры і фауны), «культурная спадчына» (ахова гістарычных помнікаў і захаванне народных традыцыяў і промыслаў), «інжынерна-канструктарскія распрацоўкі» (праекты, скіраваныя на зніжэнне выкарыстання карысных выкапняў), «маладзёжныя праекты» (праекты па любой з вышэйпералічаных тэмаў, аўтары якіх не старэй за 18 гадоў). Першая прэмія складае 10 тысяч долараў ЗША.

Больш падрабязна азнаёміцца з умовамі конкурсу і атрымаць бланк заяўкі можна на сайце — *www.ford.ru*. Заяўкі прымаюцца да 20 сакавіка 2001 года. ■

БелаПАН

# Голодный падёж свиней в белорусском колхозе

Мария СЁДЕРБЕРГ,
фотограф, редактор информационного сайта www.vitryssland.nu

**В свиноводческом хозяйстве «Южное» в южной Белоруссии начиная с мая прошлого года минимум 25000 животных пало от голода.**

Часть туш умерших от голода животных пошла на мясо и была продана ничего не подозревавшим людям.

Работники колхоза не осмелились предпринять какие-либо меры.

Работницы «Южного» не видели никогда ничего подобного. Они живут в находящейся рядом с колхозом деревне Вулка Городищенская и работают в хозяйстве более двадцати лет.

В мае 2000 года им сообщили, что отныне животных следует кормить раз в три дня. Поначалу свинарки выразили свое недоумение и протест, но руководство осталось непреклонным.

Денег на закупку корма не хватило, но поскольку план по откорму никто не отменял, выход, согласно словам руководства, был только один.

«Свиньи буквально кричали от голода. Да так, что сердце разрывалось, — рассказывает одна из женщин. — Тяжело было приходить на работу по утрам. Животные подпрыгивали в воздух в отчаянных попытках получить корм».



Поначалу ей было не легко даже подходить к стойлам. Потом привыкла...

Руководство колхоза по-прежнему говорило, что денег нет.

Приезжали комиссии из Пинска, Бреста и Минска. И каждый раз женщины надеялись, что что-то изменится. Они убеждали себя, что новый председатель, Иван Иванович Горбанов, решит проблему, но он учился в Минске и появлялся в хозяйстве только по выходным.

Мы сидим поздним вечером в комнате, где одна из женщин, склонив голову, рассказывает о том, как свиньи начали падать от голода. Этой женщине осталось совсем немного до пенсии, но она отказывается назвать свое имя — боится последствий.

«Трактор, который вывозил трупы свиней тем летом, еле справлялся с работой. Каждый день вывозили штук по пятьсот точно».

Какое-то время находили выход в том, что туши варили и скармливали еще живым животным.

«Но к Рождеству закончился бензин, а с ним закончилась и эта попытка сохранить хоть сколько-нибудь большое поголовье».

Колхоз, находящийся в 20 километрах к востоку от города Пинска, имел до голодного падежа примерно 30.000 свиней. На сегодня осталось около 6.000.

Падёж упоминается в отчете городского статистического управления по Пинской области. Государственная газета «Полесская Правда» опубликовала 14 февраля сего года большой статистический материал, из которого видно, что в течение 2000 года поголовье свиней в регионе сократилось на 31.252 штуки. Большинство из них приходится на хозяйство «Южное».

Пинский корреспондент радио «Свободная Европа» Алексей Диковицкий обратил мое внимание на эти факты перед тем, как я собиралась посетить колхоз. Алексей пробовал сам проинтервьюировать ответственных лиц, но безуспешно.

Согласно статистическому управлению, в 2000 году поголовье свиней сократилось на 54%. Поголовье коров — на 3%, кур — на 39%.

Данные о причинах резкого сокращения в птицеводстве отсутствуют.

Голодный падёж животных оказался не последним шоком для жителей деревни Вулка. Когда стало понятно, что колхоз не может справиться с сохранением поголовья, работники фермы предложили выкупить животных.

Тут нужно отметить, что работники имеют возможность покупать 6 килограммов свинины в месяц на льготных условиях. Но купить живых свиней им не позволили. Производственный процесс — прежде всего.

Трупы животных сваливались неподалеку от колхоза, возле кукурузного поля и не всегда даже засыпались землей.

Летом жителям деревни вдруг предложили купить свинину по очень низкой цене. Когда люди поняли, что это за свинина, они прогнали незадачливых продавцов.

Один мужчина, работавший ранее в закрытом теперь молочном хозяйстве, рассказывает о том, как он видел летом группу людей, занимавшихся свиными тушами. Человек десять, из которых три девушки, расположились в трехстах метрах от фермы, на опушке леса. Рассказчик решительно ведет меня через заснеженное кукурузное поле к тому месту, где эти люди брали мясо. Так же, как и деревенские женщины, он отказывается называть свое имя или сниматься. «Я думал пойти на „Варяг" и рассказать все, — говорит он, — да не пошел».

«Варяг» — это частный телевизионный канал, вещающий на Пинскую область. В середине 90-х годов канал, возникший при поддержке Фонда Сороса, начал передавать новости. Однако, в январе этого года пять служащих «Варяга» были уволены, а информационное вещание прекращено.

На то, что какое-либо из государственных СМИ рассказало бы такую историю, этот человек не надеется.

В регионе нет ни одной независимой газеты. Те, кто пытаются создать таковые, не получают лицензии на издательскую деятельность.

Страх перед властями укоренен очень глубоко. Увольнение с единственного в округе рабочего места, потеря пенсии или проблемы со школой для детей считаются само собой разумеющимися последствиями противостояния начальству.

Ситуация в деревне Вулка может быть описана как сдержанная нищета. Можно было бы, наверное, назвать это и сугубо деревенской идиллией с красивыми деревянными домами, если бы не информация о безработице, закрытом, популярном в прошлом, спортивном клубе и пьянстве. Люди выживают благодаря личным хозяйствам и аренде полугектара колхозной земли. Однако пенсии выплачиваются своевременно. Размер пенсии часто совпадает с размером зарплаты в колхозе и составляет примерно 400-600 шведских крон в месяц.

Большая стая грачей взлетает при нашем приближении. Ветер с градом над кукурузным полем улегся. Из здания свиноводческой фермы долетают крики животных. Штук двадцать свиных трупов, в основном поросят, различимы в яме, которая находится в ста метрах от колхоза. Сладковатая вонь лежит плотным ковром над этим местом.

«Через какое-то время навели немного порядок. Посадили человека охранять яму. Но это только днями, по ночам его там не было».

Согласно работницам фермы, падёж коснулся в первую очередь поросят в возрасте до трех месяцев. Молочные поросята выживали, если конечно выживала свиноматка. Начиная с мая 2000-го, количество свиней, достигающих убойного веса в 90 килограммов, постоянно сокращается.

Голодный падёж продолжается и в этом году. К тому же совершенно очевидно, считают колхозники, что мясо из ямы продолжает исчезать. Его продают ничего не подозревающим людям, прежде всего в Пинске, городе с более чем стодвадцатитысячным населением.

Председатель, который «должен быть на месте в воскресенье», посетителей не принимает, — сообщает мне охранник у главного входа... ■

*Текст был опубликован в сокращенном варианте в газете «Дагенс Нюхетер» от 21 февраля 2001. Полный вариант текста - на сайте www.vitryssland.nu*

**Материал подготовлен для публикации информационным отделом ПЦ «Вясна»**

## Высакосны год не даў шчасця

Леанід ІГНАЦЬЕЎ

У 2000 годзе матэрыяльнае становішча 57% жыхароў Беларусі пагоршылася. Пра гэта сведчаць вынікі рэспубліканскага даследавання, якое правяла сацыялагічная служба Партыі камуністаў Беларускай.

Анкетаванне праводзілася з мэтай вывучэння грамадскай думкі аб сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краіне. Апытаны больш за 4.600 жыхароў Беларусі, якія прадстаўляюць розныя сацыяльна-дэмаграфічныя групы насельніцтва.

Больш за трэць — 37% — рэспандэнтаў не заўважылі сёлета ніякіх змяненняў ва ўзроўні свайго дабрабыту. І толькі 6% заявілі аб паляпшэнні свайго матэрыяльнага становішча.

На пытанне «Калі ваша матэрыяльнае становішча будзе пагаршацца ў будучым, то што вы зробіце?», 26% рэспандэнтаў адказалі: «Буду самастойна шукаць любы законны шлях паляпшэння жыцця». 18% гатовы цярпліва чакаць лепшых часоў, а 13% — зробяць, «як большасць». 11% грамадзян адказалі, што будуць шукаць шляхі паляпшэння жыцця нягледзячы на закон. 12% апытаных не ведаюць, што будуць рабіць. 2% заявілі аб гатоўнасці ўзяць удзел у забастоўках, а 1% — дамагацца замены ўлады ўзброеным шляхам. ■

БелаПАН

## У Швецыю — наш тэкстыль

Ірына САЗАНОВІЧ

На працягу трох дзён прадстаўнікі Шведскага агенцтва міжнароднага развіцця (*SIDA*) Яна Ульсана і Ола Нільсма праводзілі перамовы ў канцэрнах «Беллегпрам» і «Беллесбумпрам», а таксама ў Беларускай канфедэрацыі прамыслоўцаў і прадпрымальнікаў і Беларускай гандлёва-прамысловай палаце (БелГПП). Іх цікавілі пытанні арганізацыі экспарту ў Швецыю прадукцыі беларускіх прадпрыемстваў. На сустрэчы з кіраўніцтвам БелГПП прадстаўнікі агенцтва заявілі, што бізнесмены Швецыі зацікаўленыя ў імпарце беларускіх тавараў лёгкай і дрэваапрацоўчай прамысловасці, і *SIDA* гатова садзейнічаць вытворцам гэтых тавараў у выхадзе на шведскі рынак. Яны таксама паведамілі аб тым, што ў 2001 годзе агенцтва прыступіла да фінансавання праектаў па развіцці малога і сярэдняга бізнесу ў Беларусі, прасоўванні беларускага экспарту ў Швецыю. У прыватнасці, будзе прафінансаваны ўдзел беларускіх тэкстыльшчыкаў у мерапрыемстве *«Marketplacc Texnilica»*, падчас якога беларускія прадпрыемствы прадставяць сваю прадукцыю буйнейшым імпарцёрам і аптавікам Скандынавіі і правядуць перамовы па пытаннях яе экспарту ў Швецыю. ■

БелаПАН

## Адходаў задарма не пазбавішся

Кірэй МАНУЙЛА

Штогод у Беларусі з'яўляецца каля 30 мільёнаў тонаў толькі прамысловых адходаў. Савет міністраў выдаў у лютым пастанову, якой вызначаюцца сёлетнія тарыфы за размяшчэнне на санкцыяваных палігонах і звалках розных відаў адходаў. Нарматывы платы ўстаноўленыя з разліку на 1 тону такіх рэчываў і залежаць ад ступені іхняй таксічнасці.

Гэтак зазахаванне на аб'ектах размяшчэння адходаў адной тысячы кілаграмаў нетаксічных адходаў трэба будзе заплаціць 684 рублі. Скінуць тону таксічных адходаў 1-га класа небяспечнасці абыдзецца ў 174.135 рублёў, 2-га класа – у 51.870 рублёў, 3-га – у 17.385 рублёў, 4-га – 8.664 рублі. Пазбаўленне ад тоны нетаксічных адходаў вытворчасці каштуе 30 рублёў, а нетаксічных па класах – адпаведна 2.964, 890, 296 і 148 рублёў. Каб захаваць 1 кілаграм вадкіх радыяактыўных адходаў на спецсховішчных аб'ектах, трэба будзе заплаціць 55.575 рублёў, цвёрдых – 555.754 рублі, за тону ападку сцёкавых водаў на ілавых пляцоўках, сажалках ды накапляльніках бяруць 2.965 рублёў.

За захаванне тоны змешчаных пад мытны рэжым утылізацыі тавараў, прызнаных адходамі, а таксама адходаў, што ўзнікаюць у выніку знішчэння тавараў пад гэтым рэжымам, — 37.050 рублёў (нетаксічныя) і 926.250 рублёў (таксічныя). Прычым, калі гэта прадукты харчавання, то плата павялічваецца ў 5 разоў, калі медыкаменты — то ў 100 разоў.

Не бярэцца плата за размяшчэнне на палігонах вулічнага смецця, адходаў, што паступаюць ад насельніцтва, радыеактыўных адходаў, што з'яўляюцца ў выніку работ па пераадоленні наступстваў аварыі на ЧАЭС, і за тымчасовае размяшчэнне адходаў, што будуць потым выкарыстаныя альбо абясшкоджаныя. Нарэшце, задарма могуць хаваць адходы іх уласнікі, якія не ажыццяўляюць прадпрымальніцкай дзейнасці. ■

## Кожны чацвёрты — пенсіянер

Павал МАЖЭЙКА

Сярэдні памер пенсіі за люты ў Гродзенскай вобласці — 40 тысяч 859 рублёў. Такую лічбу назваў 23 лютага на прэс-канферэнцыі начальнік упраўлення сацыяльнай абароны насельніцтва Гродзенскага абласнога выканаўчага камітэта Рыгор Антановіч. «Гэта, безумоўна, не дазваляе забяспечыць пенсіянерам нармальнае жыццё», — адзначыў Р.Антановіч.

Максімальны памер пенсіі для працоўных пенсіянераў за люты склаў 49 тысяч 316 рублёў, мінімальны — 23 тысячы 293 рублі. Пры гэтым мінімальную пенсію ў вобласці атрымліваюць 16,5 працэнта ад агульнай колькасці пенсіянераў.

Сёння ў вобласці 315 тысяч грамадзянаў атрымліваюць пенсіі; з іх 194 тысячы — жанчыны, 119 — мужчыны. Найбольш пенсіянераў жыве ў Шчучынскім, Гродзенскім і Навагрудскім раёнах, дзе іх колькасць перавышае 20 тысяч чалавек; найменш, каля 10 тысяч — у Бераставіцкім раёне. Наогул, кожны чацвёрты жыхар Гродзенскай вобласці — пенсіянер. Аднак ёсць і такія раёны, дзе статус пенсіянера мае нават кожны трэці. ■

БелаПАН

# Наше государство не любит рынок

Вероника ЧЕРКАСОВА

**Поводом для пресс-конференции, состоявшейся 23 февраля в Союзе предпринимателей, послужило резко возросшее в последнее время давление на мелкорозничные торговые места и торговые точки как в Минске, так и по всей Беларуси.**

Открывая пресс-конференцию, президент Союза предпринимателей Александр Потупа заметил, что развитие предпринимательства и рыночной экономики в Беларуси может быть оценено только негативно. Доминация командных методов, которая особенно остро проявилась с 1996 года, привела к обрушению системы предпринимательства и сокращению субъектов приблизительно на 40%. Причем, в связи с продолжающейся перерегистрацией можно ожидать, что этот процесс будет продолжаться. «Официально декларируемая борьба с коррупцией, — заметил он, — привела лишь к тому, что коррупция стала едва ли не формой существования общества, пронизав абсолютно все точки экономической активности. Мы видим, как развивается государственный рэкет, когда под лозунгом того, что простому народу нужны низкие цены, по сути дела идет борьба с низкими ценами. Да, не выгодно, когда на рыночных раскладах выпечка гораздо выше качеством и стоит в три раза дешевле, чем в магазинах. Не выгодно, когда в киоске пачка «Мальборо» стоит 1.300 рублей, а в близлежащем магазине – как минимум, 1.800. И совершенно очевидно, что борьба идет именно с теми торговыми системами, которые способны торговать по более низким ценам. Огромна разница между ценой фруктов в магазине и на лотках, и это при парадоксально низких зарплатах».

Вице-президент Союза предпринимателей Сергей Пирожник, возглавляющий совет по делам торговли, более подробно рассмотрел проблему, сложившуюся с мелкорозничной торговлей и киосками, которые в последнее время стали неожиданно и незаметно исчезать с привычных для горожан мест. Как показал анализ, в сфере мелкого бизнеса, как правило, работают люди, которые были вынуждены уйти с госслужбы по сокращению или из-за того, что предприятия, на которых они работали, закрылись – словом, по причинам, не зависящим от их воли. Иными словами, начать собственное дело их заставила нужда. Но открыть киоск и начать в нем торговать, просто лишь на словах. Рассмотрим, что же получается на деле.

Итак, прежде чем стать предпринимателем, надо заплатить: за свидетельство, за лицензию, за лицензию на торговлю табачными изделиями (что составляет, как минимум, 45 долларов). Для установки киоска необходимо согласовать все технические условия, что обойдется в 360 тысяч рублей. Далее предпринимателю надо оформить от 30 до 40 самых различных документов, согласований, поставить печати, для чего нужно обойти руководителей буквально всех служб, имеющихся в городском хозяйстве. Срок от регистрации до установки киоска растягивается от трех месяцев до одного года! И все это время люди, которые приняли решение открыть свое дело, нигде не работают.

После оформления бумаг и согласования документов наступает новый этап. Для того чтобы установить киоск, необходимо заплатить 200-300 тысяч рублей за проект и установку, еще 200 тысяч – за кассовый аппарат, в 7 тысяч обойдется заключение договора на обслуживание кассового аппарата, в 45 тысяч рублей — прибор для проверки акцизов, причем все это — еще до того, как предприниматель начинает зарабатывать деньги на том самом рабочем месте, которое он хочет создать.

Но и это не все. Независимо от того, установлен киоск или нет, предприниматель должен заплатить сбор за право торговли в размере 10 минимальных зарплат, 2 минимальные зарплаты за уборку мусора и фиксированную ставку в размере 20 минимальных зарплат. Трудно объяснить причины, по которым ассортиментный перечень должен согласовываться по два и более раз в году. Возможно, причина в том, что за первое согласование нужно платить 15 тысяч, а за каждое последующее – по 7 тысяч рублей. Иными словами, превоначальные затраты предпринимателя, решившего установить киоск, фактически составляют один миллион рублей, и это еще до того, как он будет установлен. Сам же киоск стоит от 2 до 3,5 тысяч долларов, а если он сделан на остановочном пункте, то от 5 до 12 тысяч опять же, не рублей. Присовокупите к этой сумме оплату бензина, машины, складов и зарплату работникам. В результате получается, что нет смысла даже задумываться об открытии киоска или, как их называют, остановочного пункта, если у тебя нет первоначального капитала от 4 до 12 тысяч долларов. При этом, напомним, что, как показывает опыт, за это дело берутся те, кто был вынужден уйти с государственной службы и попросту не может располагать такими средствами. Большинство малых предпринимателей одалживают эти деньги у знакомых, родных и близких, в надежде на то, что когда киоск откроется, они смогут начать их возвращать. Не тут-то было. Начало



Фота Ул.ШЛАПАКА

работы отнюдь не означает получение прибыли. Скорее, наоборот, начинаются новые расходы: 5% — налог на продажу, 9% и выше – подоходный налог с наемных лиц, 35% выплачиваются в фонд социального страхования, 1% — в пенсионный фонд, 1% от зарплаты поступает в фонд занятости. За свет и отопление предприниматели платят в три раза дороже, нежели остальное население. Кроме того, есть еще два-три продавца, водитель, бухгалтер, кладовщик, которым надо платить зарплату.

А теперь посмотрим на то, какую прибыль киоски приносят городу, не считая многочисленных выплат и налогов. В каждом районе Минска расположено от 200 до 250 киосков, иными словами, всего около 2.250 киосков. Ежемесячно один киоск дает государству в виде арендной платы от 100 до 120 тысяч рублей за пять метров занимаемой им площади. Нетрудно подсчитать, арендная плата за кусок земли под коммерческим киоском составляет около 20 тысяч рублей за квадратный метр, примерно столько же платят престижные офисы в центре белорусской столицы.

Однако, пока что речь шла об официальных расходах. Но есть и так называемые дополнительные, к которым можно отнести «просьбы» исполкома, санстанции, милиции и так далее, которые, по словам торговцев, «тянут» от 50 до 100 долларов в месяц. Ну, и ни для кого не секрет, что в каждом районе есть «смотрящие», которые не менее регулярно, нежели государственные службы, хотят получить свою часть чужой прибыли.

Вот, собственно, и все. И радоваться бы родному государству тому, что его граждане, не взяв у него ни копейки, создают рабочие места и приносят в казну весьма солидную прибыль. Но вместо этого горисполком издает постановление «О приостановлении размещения объектов мелкорозничной торговли на территории города Минска», в котором говорится о том, что надо упорядочить их размещение и привести в порядок внешнее состояние. С одной стороны – цель благородная. С другой — под видом этого самого упорядочения идет поголовное сокращение киосков и лотков. Причем, не где-то, а конкретно «в местах, обеспеченных стационарными объектами торговли и общественного питания». Иными словами, местные власти получают возможность под этой маркой ликвидировать киоски, расположенные возле магазинов, торгующих аналогичной продукцией, но по более высоким ценам.

Все те же проблемы касаются и лотков, которых сегодня в Минске даже больше, нежели киосков. Сегодня через лотки осуществляется практически 90% фруктоовощной торговли, и если завтра лотки исчезнут, у населения значительно затруднится доступ к фруктам и овощам. И ведь что обидно: фрукты – товар нежный, и какой предприниматель или фирма может позволить себе забастовку, если она торгует бананами или киви? Два дня – и ты уже никогда не сможешь рассчитаться по своим обязательствам, независимо от того, как в дальнейшем сложатся твои отношения с властями...

При этом удивляет полный правовой произвол, с которым осуществляются акции по уничтожению мелкорозничной торговли. Когда в районе, прилегающем к Комаровскому рынку, убрали примерно 150 киосков, часть из них была перемещена в район тракторного завода. Несмотря на то, что предприниматели заключили с местными властями договор на месяц, тут же поступило распоряжение сверху киоски убрать, поскольку они, якобы, не вписались в структуру района. Из подземных переходов выставили торговцев цветами несмотря на то, что у них был заключен договор с метрополитеном.

Однако, в Беларуси проблемы испытывают не только владельцы киосков и лотков. Можно с полным правом говорить о том, что в стране практически затормозилась развитие частного предпринимательства, причем, не только в торговле, но и еще в 35 видах деятельности, направленных на развитие сферы услуг. Сегодня количество рабочих мест в мелком предпринимательстве по сравнению с 1995 годом сократилось с 270 тысяч до 160.

В середине прошлого года Союз предпринимателей высказал предположение, что «благодаря» перерегистрации количество юридических лиц может сократиться примерно на 70%. В начале этого года прогноз полностью подтвердился. Перерегистрация, как известно, была продлена еще на полгода, но есть основания полагать, что примерно 40% юридических лиц ее все равно не пройдут.

Сегодня вопрос о мелких предпринимателях перерастает в крупную государственную проблему.

— Вообще же, — заметил Александр Потупа, — все это очень напоминает то, как советское государство некогда уничтожало НЭП. Тогда тоже никто не бегал в кожанках и с маузерами, никто не стрелял. Просто никому не могло прийти в голову, что за 1928 годом наступит 1937... ■

ЭКСПРЭС

## Прогнозы, долги, расчеты

Андрей КАРПОВИЧ

### Итоги работы свободной экономической зоны «Минск» в 2000 году

Об итогах работы в 2000 году и планах на новый год сообщила администрация свободной экономической зоны «Минск» на пресс-конференции, состоявшейся в Минском горисполкоме.

Как рассказал журналистам глава администрации СЭЗ «Минск» Николай Цедрик, резидентами экономической зоны являются 43 предприятия, из которых 33 — с американским, российским, английским, польским, немецким, итальянским капиталами. Ими в минувшем году выпущено продукции на сумму свыше 31 миллиона долларов США, создано 650 рабочих мест.

### Белоруссия и Эстония подписали соглашение о сотрудничестве в области железнодорожного транспорта

По словам начальника Белорусской железной дороги Виктора Рахманько, этот документ дает возможность еще более плодотворного сотрудничества в области грузовых и пассажирских железнодорожных перевозок. В 2000 году их объем увеличился по сравнению с предыдущим годом более чем в два раза.

### В Беларуси зафиксировано снижение темпов экономического роста

В январе 2001 года объем валового внутреннего продукта Беларуси вырос на 2 процента по сравнению с январем 2000 года. Для сравнения: в январе 2000 года рост ВВП составил 5 процентов по сравнению с январем 1999 года, а по итогам 2000 года ВВП увеличился на 6 процентов.

Инвестиции в основной капитал увеличились на 1,7 процента (в январе 2000 года — на 3,9). Объем введенного в эксплуатацию жилья снизился на 0,3 процента (год назад был зафиксирован рост на 55,3 процента). Заметно снизился грузооборот предприятий транспорта общего пользования — на 16,9 процента (год назад — рост на 16,9 процента). Розничный товарооборот вырос в январе на 17,5 процента (год назад — на 13), объем платных услуг — на 6,7 (на 9,9). ■

## Непісьменнасць прывядзе за краты

Амерыканскі школьнік, які адправіў прэзідэнту Джорджу Бушу па электроннай пошце ліст з пагрозамі забойства, быў выяўлены па надзвычайнай колькасці памылак. Спецыялісты службы, якія займаюцца аховай кіраўніка амерыканскай дзяржавы, прасачылі сляды паштовага паслання ў горад Мэрыён, штат Агаё. Сумесна з мясцовай паліцыяй яны хутка вынайшлі аўтара пагрозаў – 14-гадовага падлетка.

Ягонае пісьмо Бушу без ніводнага знака прыпынку мела від: «Я вас шукаю і збіраюся забіць калі дабяруся да вас я вас не люблю і заб'ю вас». Апроч поўнай адсутнасці ведаў у пунктуацыі, хлопец нарабіў у сваім кароткім творы і тузін арфаграфічных памылак. Спецагенты высветлілі, што аўтар – гэта новы вучань мясцовай школы. За кароткі час навучання ў школе ён здолеў дамагчыся легендарнай славы мноствам недарэчных памылак. Падлетак не адмаўляўся ад аўтарства і быў змешчаны ў асяродак утрымання непаўнагадовых правапарушальнікаў. Па яго словах, ён проста жадаў даказаць нешта няўцямнае свайму карэспандэнту, з якім перапісваўся праз інтэрнэт, але адразу асэнсаваў шкоднасць свайго ўчынку. Ён нават паспрабаваў накіраваць у Белы дом яшчэ адно пісьмо з прабачэннямі, аднак лёс прабачальнага пісьма яму невядомы. Справа выглядае даволі сур'ёзна, і маці жартаўніка адмаўляецца адказваць на пытанні цікаўных, адсылаючы ўсіх да адваката, тэрмінова нанятага для абароны свайго неразумнага жартаўніка. ■

## Кувейтцы пасмакуюць прэснай вады

Ужо існуе праект будаўніцтва грандыёзнага трубапровода, па якому будзе падавацца прэсная вада з поўдня Ірана да ўзбярэжжа Кувейта. Трубапровад працягнецца на 540 кіламетраў. Будаўніцтва будзе выконваць спецыяльны кансорцыум, які ствараюць кампаніі з Еўропы, Японіі і арабскіх краінаў. Кошт праекта на сённяшні дзень ацэньваецца ў 2 мільярды долараў. Дзякуючы трубаправоду Кувейт будзе атрымоўваць па 200 мільёнаў літраў прэснай вады штодня. Пітная вада, якую спажывае насельніцтва Кувейта ў цяперашні час, выпрацоўваецца на спецыяльных апрасняльных устаноўках. На думку экспертаў, праца такіх установак наносіць экалагічную шкоду марскому ўзбярэжжу краіны. Апроч таго, паступленне прэснай вады – мае вялікае значэнне для захавання міру ў гэтым рэгіёне, дзе, па меркаваннях палітычных экспертаў, праблема водазабеспячэння людзей можа стаць адной з галоўных прычынаў міждзяржаўных канфліктаў у новым стагоддзі. ■

## Кітайская сцяна сапраўды вялікая

Працягласць Вялікай кітайскай сцяны складае 7,2 тысячы кіламетраў. Гэта на 500 кіламетраў больш, чым лічылі раней. Да такой высновы прыйшлі археолагі, якія вывучалі ўчастак пабудовы, адкрыты ў 1998 годзе. Ён уяўляе сабой земляны вал вышынёй ад аднаго да трох метраў, з узвышэннямі ў выглядзе вартавых вежаў, і знаходзіцца ў пустынай зоне, абранай урадам КНР для ядзерных выпрабаванняў. Гэтая частка Вялікай кітайскай сцяны была ўзведзеная каля 2 тысяч гадоў таму. Сцяна неадназова аднаўлялася ў пазнейшыя перыяды. Гэта – адзіная зямная пабудова, створаная рукамі чалавека, якую амерыканскія касманаўты здолелі прыкмеціць з паверхні Месяца. ■

## Страчаныя традыцыі

Аляксей СТАЎСКІ



Так нічога і не здолелі выйграць ці прынамсі хаця б нияк праявіць сябе на чэмпіянаце свету па лыжных відах спорту ў фінскім горадзе Лахці беларускія спартсмены. А гэта азначае, што ўсе, нават самыя мінімальныя амбіцыі адносна нейкага верагоднага прагрэсу былі проста знішчаныя. Не праявіў сябе абсалютна ніхто, нават Сяргей Далідовіч, на якога былі найбольшыя спадзяванні.

А чэмпіянат свету тым часам скончыўся, агалўшы ўсе недахопы і перавагі мадэрнізаваных лыжных гонак у спрынце, раздзяленне спартсменаў строга па стылях бегу па дыстанцыі і г.д.

Найбольшую ж колькасць медалёў у Лахці заваявалі традыцыйныя фаварыты: фіны, рускія, шведы, нарвежцы, як і належыць так званым паўночным краінам. Беларусы ж цяпер, нягледзячы на халоднае вулічнае надвор'е, да іх яўна не адносяцца. ■

## РТІ прыехаў у Мінск ні з чым



Абсалютна ніякіх шанцаў атрымаць прынамсі адну перамогу на адборачным турніры ў Паўночнаеўрапейскую баскетбольную лігу не было ў мінскага клуба РТІ. На «Чэленджы» («Адборы») у Адэсе мінчане прайгралі ўсе гульні і сталі апошнімі ў групе з чатырох камандаў. У мінулым нумары мы паведамлялі пра паразу ад літоўскага клуба «Аліта», а ў гэты раз прывядзем няўдалую статыстыку гульняў з астатнімі сапернікамі. 109:69 – сорак ачкоў розніцы, так нас разграміў санкт-пецярбургскі «Спартак», і 97:78 – гэта ўжо перамога над беларусамі гаспадароў пляцоўкі баскетбалістаў клуба «Адэса», якія ў рэшце рэшт і сталі пераможцамі групы.

Такім чынам мінчане вярнуліся дадому, але тым часам высветліліся сапернікі другога беларускага клуба «Гродна-93» на другім этапе «Чэленджа». Імі сталі той жа санкт-пецярбургскі «Спартак» і клуб «Д.Ж.К. Олівер» з Прыбалтыкі. Чацвёртая каманда групы, у якой пойдзе змаганне толькі за адну пуцёўку, высветліцца пазней. ■

## Непераадольны рубеж паўфіналу

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

Паўфінальная мяжа тэнісных турніру ў Ротэрдаме стала ракавой для беларуса Уладзіміра Валчкова. Так, з аднаго боку, зусім нядрэнны вынік у такой моцнай кампаніі тэнісістаў трапіць у паўфінал, а з іншага – зноў загінула надзея згуляць у фінале, у які беларусы на буйных турнірах ніколі яшчэ не траплялі.

Але ўсё па парадку. Пасля сенсацыйнай перамогі Максіма Мірнага над Марагам Сафіным ён, на жаль, не здолеў вытрымаць фантастычнага па сваёй напрузе паядынку з шведам Андрэаса Вінсыгуерай – 7:6, 5:7, 6:7. Затое Валчкоў падтрымаў пачын свайго земляка і перамог спачатку ў 1/8 фіналу славака Даміnіка Хрбаты – 6:2, 1:6, 7:6, а затым «адпомсціў» Вінсыгуеры за Мірнага – 5:7, 6:1, 6:3 і выйшаў у той самы паўфінал. На жаль, француз Нікаля Эскудэ, які зараз на яўным пад'ёме, не пакінуў Валчкову ніякіх шанцаў – 6:4, 6:1.

Тым не менш, Уладзімір яшчэ раз даказаў свае высокія прэтэнзіі на сезон 2001 года і ўжо зараз узняўся ў дваццатку лепшых тэнісістаў свету па выніках рэйтынгу «Чэмпіёнскай гонкі». ■

## Анна Курнікава зламала нагу

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ




Скандальна вядомая расійская тэнісістка, адна з найбольш прыгожых спартсменак свету Анна Курнікава днямі пашкодзіла нагу і выбыла з вялікага тэніса крыху больш чым на месяц. Дактары называюць гэтую як траўму стрэсавым (перагрузачным) пераломам. І нічога б у гэтай навіне не было такога сенсацыйнага (усякае здараецца ў свеце спорту), калі б не такая хваля эмоцыяў па ўсіх інтэрнэт-сайтах свету. Такое ўражанне, што нагу зламаў як мінімум Джордж Буш-малодшы. Многія тэнісныя форумы перагружаныя як пажаданнямі здароўя яе самых ярых прыхільнікаў, так і злараднымі выказваннямі кшталту «так ёй і трэба!» Дык што ж усё ж такі жаночы тэніс для Анны Курнікавай – сродак для здабыцця грошай, подыум для красавання альбо спорт? Адказу на гэтае пытанне не ведае ніхто. ■

## Найлепшы падарунак да Вялікадня















# Астрологический прогноз

## от Вероники Кудрявцевой

### 26 февраля - 4 марта

*Астропрогноз отражает общий природный социально-психологический фон наподобие прогноза погоды. Индивидуальное прогнозирование строится на точных данных: учитываются день, месяц, год, место и время рождения человека.*



**Овен.** Можно не иметь сто рублей, но иметь сто друзей, с которыми улыбается удача в раскрутке ценных идей. Поездки и командировки только идут на пользу, актуальна необходимость учить какой-то иностранный язык. Вполне приемлемо сейчас взывать к общечеловеческим ценностям даже в высоких кабинетах — вы вполне можете быть услышаны.



**Телец.** Обеспечивать тылы и вести тайные переговоры вполне перспективно. Наконец-то и родственники приносят пользу. В результате всего этого маленький переворотик в профессиональных планах пойдет только на пользу. Хотя правы и те, кто захочет просто набраться сил, занимаясь, правда, активным отдыхом. В любимом проявляется какая-то притягательная тайна.



**Близнецы.** Вы неожиданно находите поддержку в структурах, имеющих отношение к другим странам. Может осуществиться дальняя поездка с супругом. Если основное внимание уделить необходимым юридическим делам, то здесь будет толк. Действуйте, вполне мирно можно решить самые насущные проблемы. Весьма удачной окажется рекламная и общественная деятельность.



**Рак.** Вы с удовольствием раскручиваете служебный роман, не забывая о прагматичных интересах. Любимый человек вникает в ваши проблемы и способен взять что-то на себя. Деловой Рак готов заключить выгодное соглашение еще в одном месте работы. Вероятно, вернется ушедший от вас человек и даже сможет сделать толковое предложение.



**Лев.** Вдруг обнаруживается друг семьи, и это разбудит задремавшего было Льва. Есть шанс убедиться, что миром правит любовь. Расцветают способности писать стихи, петь серенады, сеять разумное, доброе, вечное. Надо сказать, что вы востребованы обществом. Вероятно, кому-то из ваших детей повезет, и вы окунетесь в общую сказочную атмосферу.



**Дева.** Вы завели дело, которое висит грузом. Подключите к своим проблемам побольше людей, особенно родственников, — и за эту неделю осуществите массу планов. Больше двигайтесь, перемещайтесь, общайтесь. Не бойтесь нововведений на работе. Можно смело браться за осуществление научного, художественного или литературного проекта.



**Весы.** Творческая жизнь бьет ключом, вы можете закружиться в вихре богемных встреч, неординарных проектов. Вероятно, впопыхах влюбитесь в весьма молодого героя, что еще более поднимет жизненный тонус. Подготовка к свадьбе или зрелищному мероприятию проходит легко и быстро, вы приобретаете амплуа удачливого авантюрного затейника.



**Скорпион.** Вы способны собрать очень богатый урожай, финансы просто текут в карман. Имеет смысл осуществить дизайн квартиры — за полмесяца она благополучно преобразится. Кто-то из близких хлопочет о выгодной брачной партии. Предложения и идеи, пока витающие в воздухе, на самом деле могут послужить приличным фундаментом в ближайших делах.



**Стрелец.** Судьба вас избрала для бурной самореализации в любовном романе. Роковая встреча, телефонный звонок, письмо могут перевернуть жизнь. К тому же оратор или писатель из вас получается как никогда блестящий. Пришло время подумать о сватовстве или хотя бы отдыхе с любимым, развлечениях и веселых компаниях. Вы яркий игрок.



**Козерог.** Чувствуется внимание и забота поклонников, как в материальном, так и в чувственном смысле. Если не верите — перетряхните свою записную книжку и напомните кому-либо лишний раз о себе. К субсидиям готов партнер из-за границы. Вы ощущаете солидный тыл и позволяете себе стать на время отъявленным романтиком.



**Водолей.** Вы способны за короткий срок усвоить иностранный язык, а также разучить язык любви с уже знакомым человеком. Вполне вероятно, что кто-то удивит признанием в любви. Несколько мгновений — и жизнь на этой неделе может перевернуться, казалось бы, по совершенно случайному поводу. Полагайтесь на друзей, вступайте в общественные организации, отправляйтесь в поездки — вам повезет.



**Рыбы.** Вы удачно лавируете в непредвиденных обстоятельствах, которые вам только на руку, в неформальной обстановке договариваетесь с кем-то о финансовой поддержке. Дальняя поездка или чей-то приезд издалека также сулит прибыль. Время светлых надежд и общественного содружества. Можно даже повеселиться без особых причин и поводов.

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі.
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэджык»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ № 98 Нумар падпісаны ў друк 11/02/2001 (15.00) Наклад – 9.350